# ІСКРЫ ІЛЬІЧА






9

# У дзіцячым садзе



*Верш дзяткора УЛ. ПІЛЮГІ*

*Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ*

Шустрая Мар'янка
З Ігналёвай Надзяй
Ладзяць тут гулянку
У прыгожым садзік.

Там Мікола з Пятрусём
Робяць ваганетку,
А Спартак з Міхасём
Пракладаюць рэйкі.

Усё гатова:
Рэйкі—ёсьць,
Ваганетка—
Новая.
Ну, пускай!...
Ня едзе штось,
Хоць і ўсё гатовае.

Падыходзіць тут Янук,
(Нібы старшы тэхнік)
Малаточкам—
Стук...
Стук...
Стук...
Круціць ваганетку.
Пакруціў, абгледзеў
Хуценька і рупна...
— Вось чаму ня едзе—
Не хапае шрубкі.
Прыкруцілі шрубку—
Пашла ваганетка.
Толькі чутна:
Стук...
Стук...
Стук...
Стукаціць па рэйках.



ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

ГОД ВЫДАНЬНЯ 3-ЦІ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год | 1 р. 80 к. |

№ 9 верасень 1931 г.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

# Школа павінна стаць політэхнічнай





*Самі зрабілі модэль трактара*

**„Нельга сабе ўявіць ідэалу будучай грамады бяз злучэньня навучаньня з вытворчай працай маладога пакаленьня".**

**ЛЕНІН.**

# ПРЭЧ НЯПІСЬМЕННАСЬЦЬ З КРАІНЫ САВЕТАЎ!

Беларусь у мінулым — гэта самая адсталая, цёмная, бедная краіна. Царызм давёў нашу краіну да жабрацтва, да дзікунства.

Пагалоўная няпісьменнасьць працоўных многіх раёнаў, цемра, галеча—вось спадчына праклятага царызму. Вайна буржуазіі супроць краіны саветаў яшчэ больш разбурыла Беларусь.

Але гэта—у мінулым.

Сёньня мы ўжо можам паспрачацца з многімі буржуазнымі дзяржавамі—якая краіна бульш культурная? А праз год-другі гэта будзе бясспрэчным фактам.

Буржуазія дажывае апошнія свае дні. Разам з ёю дажывае веку і буржуазная культура.

Цікавы факт. Для буржуазіі Нямеччыны ўжо непатрэбны вучоныя. Для іх няма работы. Там 40 тысяч акадэмікаў (людзей, якія скончылі вышэйшыя школы і заслужылі пахвалы), ўжо ў гэтым годзе бяз працы. А налета такіх набярэцца звыш 150 тысяч! А колькі беспрацоўных настаўнікаў, тэхнікаў, служачых...

І ня дзіўна, што многія буржуазныя газэты часта друкуюць артыкулы, у якіх угаварваюць моладзь ня ісьці ў школы. Чаму? Бо ім ня будзе потым дзе дзецца. Вучоныя больш непатрэбны. Для буржуазіі цяпер патрэбны толькі такія вучоныя, якія могуць выдумліваць новыя фабрыкі сьмерці для працоўных.

Зусім ня тое ў нас. У нас не хапае вучоных, спэцыялістых. Наша соцыялістычнае будаўніцтва патрабуе соцень тысяч вучоных, патрабуе пагалоўнае граматнасьці ўсіх працоўных.

Для буржуазіі культура становіцца ворагам. Для нас-жа самы люты вораг — някультурнасьць. З гэтым ворагам мы бязьлітасна змагаемся. І ўжо з посьпехам яго перамагаем.

* * *

Год таму назад ЦВК і СНК СССР выдалі закон аб усе-

---

**ПІОНЭРЫ І АКЦЯБРАТЫ!**

**Дамагайцеся таго, каб забясьпечыць дзяцей беднаты інтэрнатам, вопраткай, абуткам, гарачым сьнеданьнем, падручнікамі, сшыткамі. Патрабуйце, каб колгас наладзіў падвоз дзяцей у школу, якая знаходзяцца далёка ад колгасу.**

*(З адозвы ЦБ ДКО ЦК ЛКСМБ)*

агульным пачатковым навучаньні на базе 4-х годкі.

Мінуў толькі год. Але за гэты час мы дабіліся вялізарных посьпехаў. Працоўныя масы зразумелі ўсю важнасьць увядзеньня ўсеагульнага навучаньня і ліквідацыі няграматнасьці сярод старэйшых. Задача партыі аб тым, каб да канца пяцігодкі ня было ніводнага няпісьменнага, выконваецца з посьпехам.



У нас, у Беларусі, ужо ў мінулым навучальным годзе ў асноўным былі ахоплены школаю ўсе дзеці малодшага ўзросту. Такія-ж вялізарныя дасягненьні маюць і іншыя рэспублікі Савецкага Саюзу. Усеагульнае навучаньне ў мінулым годзе ахапіла траха што ўсе самыя адсталыя народы СССР. Навучаньне праводзілася на 70-ці мовах. Школа стала даступнай для ўсіх дзяцей працоўных. Дзеці беднаты, якія



*Дружна ўзяліся за вучобу.*

раней не маглі вучыцца з прычыны беднасьці, цяпер усе ахоплены школаю. Дзяржава і грамадзкія організацыі ўсямерна дапамагаюць такім дзецям.

Але гэта толькі першыя перамогі. Нам патрэбны ня толькі політычна-сьвядомыя, граматныя рабочыя і сяляне, але і высока-адукаваныя вучоныя, спэцыялісты.

І вось разам з увядзеньнем усеагульнага навучаньня ў нас адкрываюцца ўсё новыя і новыя сярэднія і вышэйшыя школы. Да рэволюцыі ў Беларусії ня было ніводнай вышэйшай школы. Цяпер такіх школ мы маем звыш 20. Сотні розных тэхнікумаў і профшкол даюць нам кожны год тысячы новых спэцыялістаў. Але і гэтага не хапае.

У нас ужо з гэтага году ўсеагульнае навучаньне будзе паступова пашырацца на 7-мі годку. У бліжэйшым будучым кожны падростак мусіць скончыць 7-мі годку. Такая задача ўсеагульнага навучаньня.

Мінулы год даў ня толькі вялізарнае пашырэньне школьнай сеткі. Ён быў пераломным годам і ў набліжэньні школы да вытворчасьці. Школа дае кадры для вытворчасьці. Таму вытворчасьць і павінна быць асноўнаю школаю для кожнага вучня. Праўда, пакуль што зроблены толькі першыя спробы ў стварэньні працоўнай політэхнічнай школы. Змаганьне за політэхнічную школу ў далейшым—наша баявая задача.

Піонэры і акцябраты!

Ваша задача — усімі сіламі дапамагаць партыі і савецкай уладзе стварыць новую масавую працоўную політэхнічную школу.

Ваша задача—падрыхтаваць сябе да вялікай, пачэснай і адказнай работы ў колгасах, на заводах.

Ваша задача—падрыхтаваць з сябе моцныя, надзейныя кадры для нашых шматлікіх профшкол, тэхнікумаў і вышэйшых навучальных установаў.

---

**БУДЗЕМ УПАРТА ЗМАГАЦЦА ЗА ТОЕ, КАБ ПОЎНАСЬЦЮ І Ў ЧАС ВЫКАНАЦЬ СВОЙ ШКОЛЬНЫ ПЛЯН НАВУЧАНЬНЯ, СУПРОЦЬ АДСТАВАНЬНЯ, СУПРОЦЬ ДРУГАГОДНІЦТВА!**




# Вольчына радасьць

Апавяданьне АЛ. ПАЛЬЧЭЎСКАГА
Малюнкі САМАТЫЯ

Каб вы ведалі адно, колькі радасьці цяпер у Волькі! Якая вёселая ходзіць яна па сваім дварэ. Маці яе, Алена, дык нацешыцца ня можа з вольчынай бадзёрасьці. А Вольцы ёсьць чаго радавацца.

Ня так даўно ў іхняй вёсцы Чаркасы быў сход. Волька таксама разам з другімі дзецьмі была на сходзе. Шмат аб чым там гаварылі. Справы агульныя выраашалі, а набралася іх многа. Перш за ўсё пра жніво пагаварылі. Старшыня колгасу даклад рабіў. Сказаў пра недахопы, пра дадатныя бакі ўборачнай. Уважліва слухаў сход, пакуль старшыня ня ўспомніў прозьвішчы некаторых колгасьнікаў. Першаю выскачыла Марыля Чыгір.



— Няхай сабе я і пазьнілася на работу, але больш нажынала за дзень, як яны,—паказала Марыля на жанок.

Ну, і наваліліся-ж пасьля гэтага на яе жнеі... Мужчыны некаторыя рагатаць пачалі з іх сваркі, знашліся такія, што і цешыцца сталі.

— А цяпер яны пакажуць адна другой,—шапнуў Мікола Дзямянаў свайму суседу Антосю і засьмяяўся лісьліваю ўсьмешкаю.

Антось сурова паглядзеў на Міколу і не сказаў, а проста адрэзаў яму:

— Дык чаго ты радуешся? Трэба праўды дабіцца, а цябе ўцеха з гэтага бярэ.

— Я і ня радуюся. Я казаў, што так будзе. Ведама такі гурт людзей...

— А табе ня хочацца быць у гэтым гурце, дык ідзі да Андрэя

Цыбучка да Тодара Харытончыка. Хто цябе трымае тут?

Мікола не чакаў, што так сустрэне яго кпіны Антось. Ён памыліўся. Тады адвярнуўся ў другі бок і ні то сам сабе, ні то да другога суседа, што стаяў тут побач з ім, сказаў:

— Ліха іх бяры! Што хочуць—тое няхай робяць.

— Ні да смаку прышоўся табе мой адказ. Ідзі, ня ўмешвайся ў справы—без цябе вырашым,—усьміхнуўся Антось.

А жанкі спрачаліся:

— Дык чым-жа ты вельмі хвалішся?—падступіла адразу-ж да Марылі Магда,—падумаеш, капу за дзень нажынала...

— Праўду кажаш. Можна дзьве нажаць, але як ты зжынала? Каму гэта рабілі заўвагі? Хто гэта пакідаў столькі каласоў на полі?—падтрымала Магду Настуля.

— Дык гэта ўсёй нашай брыгадзе рабілі заўвагу,—апраўдвалася Марыля,—а ня мне адной.

Тады не сьцярпела Агата:

— Што ты хлусіш? Праз цябе адну і нам усім брыдка было. А цяпер ты на ўсю брыгаду паклён наводзіш.

Старшыня сходу сьціснуў у правай руцэ аловак і, стукаючы ім па стале, сьцішаў сход.

Многа было спрэчак, многа гаворкі было на гэым сходзе. Усё як сьлед вырашылі, далі наказ яшчэ лепей сачыць аднаму за другім.

— Самі для сябе дбаем, каб лепей было, дык і няма чаго вачэй жмурыць. Усё кажы, калі няправільна што,—пастукваючы кійком аб падлогу даводзіў дзед Язэп.

На гэтым-жа сходзе параіліся аб сяўбе. Паразьмяркоўвалі людзей па брыгадах. Адным далі адну работу, другім другую. І вырашылі праз шэсьць дзён выехаць з сеялкамі на поле.

***

Ад самага пачатку да канца прабыла Волька на сходзе. Позна прышла яна дахаты, але раней за сваіх старэйшых братоў. Пакуль тыя прышлі, дык яна пра ўсё да макулінкі расказала маці.

Расказала і пра тое, што гаварыў настаўнік.

— Глядзі ты, як яны сёлета зараней пра школу пачалі клапаціцца, яшчэ калі той сьнег, а ўжо дровы вывозіць зьбіраюцца,—зьдзівілася Алена.

— Настаўнік казаў, што праз два тыдні заняткі пачнуцца,—працягвала Волька.

— Мала што ён кажа. Хто яму пойдзе ў такі час вучыцца?—недаверліва адносілася да гэтых слоў маці Волькі.

— Усе пойдуць. Тыя-ж гады хадзілі ўсе хлопцы і дзяўчаты

чые бацькі былі ў колгасах. Гэта толькі я ды яшчэ некаторыя не хадзілі, а сёлета ўсе пойдзем разам,—сказала, Волька і мацней прытулілася да маці. Ёй хацелася, каб маці адчула ўсю тую радасьць, што была цяпер на яе сэрцы.

Чаркаскаму колгасу пашоў



трэці год, а Вольчыны браты ўступілі толькі сёлета ўвесну.

Тыя гады Вольку нікуды не адпускалі з дому. Ад самае вясны і аж да сьнегу яна заставалася гаспадыняю. Маці як адыходзіла на работу, дык заўсёды загадвала ёй:

— Пільнуй, дачушка, хату зельля сьвіньням назьбірай у гародзе ды скрышы яго дробненька, а ў дзень набярэш кошык ды абмяшай ім—хай ядуць. Пасьля напоіш памыямі, што ў вядры стаяць пад лаваю. На вячэру і назаўтра на раніцу накапаеш бульбы, каб было і сабе і сьвіньням. Як сонца схіліцца на захад, дык наскрабеш картофель на вячэру, адно налей вады, каб новая лушпіна не нарасла. Ну, здаецца і ўсё я табе сказала,—ні то ў Волькі, ні то сама ў сябе нарэшце пытала Алена.

Так кожнае лета заставалася Волька адна дома. На цэлы дзень хапала ёй работы. Цяжка, ой як цяжка было Вольцы, але і пажаліцца ня было каму, бо маці сама адсюль—адтуль напамінала:

— Цяжка нам жыць, дачушка: а ні табе адпачынку, а ні табе зьесьці, як сьлед, а ні вопраткі адзець. Увесь век так і капаешся ў працы, гнеш сьпіну то над адною, то над другою работаю. Прасьветлае гадзіны тае ня відаць.

Але сёлета, як уступілі Вольчыны браты ў колгас, дык і для Волькі і для Алены новы сьвет адчыніўся. Алене, увясну, як падлічвалі працоўную сілу ў колгасе, сказалі не хадзіць на работу. Спачатку яна пакрыўдзілася:

— Як гэта так, што ў мяне рук няма?

Тады ёй старшыня колгасу сказаў:

— Цётка, ты ўжо старая, тваё горкае жыцьцё забрала ў цябе ўсю сілу. Сама-ж казала, што ня мела прасьветлае гадзіны ў жыцьці сваім, што, як увесну, так і ў лецейка салоны пот заліваў вочы, а рукі і сьпіна дранцьвелі ад зморанасьці. Дык цяпер адпачывай, цётка, за ўсе гады.

— А хто-ж мяне карміць будзе, старую, калі я працаваць ня буду?

— Тыя, каго вы гадавалі,— старшыня паказаў на яе сыноў,—пакормяць вас.

Ад расчуленасьці ў Алены паказаліся сьлёзы.

Палёгку ў сваім жыцьці ад уступленьня ў колгас адчулі ня толькі Ўладзік, Апанас, Алена, але і Волька, бо не яна ўжо заставалася гаспадыняю ўсю вясну, усё лета, а Алена. Яна толькі памагала матцы ў рабоце, каб ня было ёй адной цяжка.

І цяпер, як надышла восень, як з дрэў пачалі ападаць лісьця, а па лузе і палёх стала чапляцца белае павуціньне, дзеці чаркаскіх колгасьнікаў заварушыліся.

З новымі сіламі, з новаю ахвотаю возьмуцца яны за кнігі, за вучобу. А ў Волькі яшчэ большая радасьць — першы год яна разам з другімі вучнямі пойдзе ў школу з самага пачатку.

Можа часам давядзецца дапамагчы бульбу капаць колгасу, ці так што-небудзь зрабіць, дык ня будзе больш маці крычаць на Вольку, як крычала летась.

— Цяпер усё наша, агульнае. Памагаем колгасу, памагаем сабе, узмацняем колгас — паляпшаем сваё жыцьцё,— разважае Волька і яшчэ большая радасьць ахапляе яе.



# ДЗЕЦЯМ ПРАЦОЎНЫХ— ДАШКОЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ

КАБ УЦЯГНУЦЬ ПРАЦОУНЫХ ЖАНЧЫН У ВЫТВОРЧАСЬЦЬ ШЫРЭЙ РАЗГОРНЕМ ДЗІЦЯЧЫЯ





ДАШКОЛЬНЫЯ УСТАНОВЫ!





# ПРАЦОЎНЫЯ МАЗАЛІ

*Апавяданьне А. ЧАРНЯЎСКАЙ*
*Малюнкі ПАШКЕВІЧА*

Старшыня зьвяна Поля Матусэвіч нецярпліва пералічала ці ўсе сабраліся. На фабрыцы трэба было быць у дзевяць гадзін, а ўжо мінула больш за паўгадзіны.

Раней, у мінулым годзе, некалькі разоў хадзілі на фабрыку на экскурсію і дарога была ўсім вядомая.

Аднак Зося Савіцкая абвясьціла, што ведае карацейшую дарогу.

— Пойдзем вось тым завулкам, павернем туды,— потым туды, казала яна, рухам рукі паказваючы куды ісьці.—Вось убачыце: нам дарога ў два разы карацейшая...

Поля не згадзілася.

— Ня выдумвай, Зоська. Ідзем хутчэй.

— А я тудою пайду,—упіралася Зося.



Вось убачыце, буду вас ля брамы чакаць.

І Зоська выправілася адна бакавым завулкам.

— У мяне пропуск на 10 чалавек,—тлумачыла Поля міліцыянэру, які стаяў пры ўваходзе.— Нас дзевяць тут, але нас ішло дзесяць.

— А дзе-ж дзесяты?

— Адна наша дзяўчынка адбілася ад нас. Але яна прыдзе хутка, дык вы яе прапусьцеце, таварыш міліцыянэр. Яе Зосяй завуць, Зосяй Савіцкай...

Вось ужо ўся група на фабрыцы.

Поля паказала пропуск інструктарцы.

— Мусіць, гэта самая маленькая група з вашай школы,— спыталася тая.

Дзеці адчувалі сябе трошку ўсхваляванымі. Раней хадзілі сюды на экскурсію, нібы ў музэй, паглядзець толькі, а сёньня прышлі працаваць. Калі хадзілі яны з настаўніцаю па фабрыцы, дык бачылі ўсе працэсы працы і ручныя, і мэханізаваныя. Да якой-жа работы іх паставяць, ці здолеюць яны выканаць яе.

Нібы адчуваючы гэтыя думкі, інструктарка сказала:

— Хадзем, дзеткі, на першы раз я дам вам самую простую і нескладаную работу. Будзеце дапамагаць складаць шчоткі.

У вялікім пакоі была навалена цэлая гара шчотак, тых, які-мі мятуць падлогу.

— Ну, вось. Усе гэтыя шчоткі трэба сёньня разабраць. Вось там паковачніцы будуць складаць іх у скрынкі, а вы будзеце ім падносіць.

Такая гара шчотак! Глядзяць дзеці. Пачні разьбіраць зьнізу, уся гара рухне. А як туды ўзьлезьці? Пачні лезьці, усе шчоткі пасыплюцца... Інструктарка і тут прышла на дапамогу.

— Вазьмеце, дзеткі, складаную драбінку,—вунь стаіць у кутку,—і хто-небудзь з вас, самы лёганькі, няхай узьлезе наверх і падае шчоткі ўніз.

Хто-ж з іхняга зьвяна самы маленькі і самы лёгкі? Зоська? Яе няма. Арончык? Ён маленькі, але круглы, як качулачка і дужа рухавы. Яшчэ пакоціцца з гары разам з усімі шчоткамі.

Але ўзьлезьці на шчотачную гару кожнаму цікава, і адзін перад адным выклікаюцца дзеці.

— Я палезу!

— Не, я, я!

Адчыніліся дзьверы і на парозе стала Зоська.

— Лезь на гару, лезь,—раптам закрычалі ўсе, убачыўшы яе.




Яна толькі вачыма лыпала.

— Гэта дзяўчынка з нашага зьвяна,—растлумачыла Поля інструктарцы.—Але яна ад нас асталася. Кароткай дарогі шукала,—падкусьліва дадала Поля.

— Сапраўды, мусіць, самая лёганькая з усіх вас будзе,—згадзілася інструктарка—лезь, дзяўчынка, па гэтай драбінцы наверх і падавай шчоткі ўніз.

Зося была вельмі рада, што яшчэ ня дужа спазьнілася і што адразу яна возьмецца за работу. Спрытна, як вавёрка, дабралася яна па драбінцы наверх шчотачнае гары. Арончык і Надзя сталі на драбінцы: ён вышэй, Надзя ніжэй. Зося падавала шчоткі, і з рук у рукі яны хутка пераходзілі да паковачніц.

Усе маўчалі, старанна працуючы, толькі шпаркім рухам

узьляталі рукі ды шоргалі ногі тых, што адносілі шчоткі ў пакавачную. Шчотачная гара меншала.

Прагудзеў гудок на абед для першай зьмены рабочых.

Разборка шчотачнае гары падходзіла к канцу. Праз некалькі хвілін дзеці ўжо адтрасаліся ад пылу.

— Пайду шукаць сваю маму. Буду разам з ёй абедаць тут на фабрыцы,—сказала Настуля.—Я сёньня ў школе і талёнчыка на абед ня брала.

— Добра працавалі, дзеці,— сказала інструктарка.



— Другім разам дам вам іншую работу і норму выпрацоўкі дам. Ваша група ў школе ўдарная?

— Ударная, ударная,—закрычалі ўсе.

— Добра,—сказала інструктарка,—а навошта ўдарніцтва, вы ведаеце?

— Ведаем,—адказала адразу некалькі галасоў. Мы ведаем— ударніцтва і соцспаборніцтва павышаюць прадукцыйнасьць працы, паляпшаюць якасьць прадукцыі, зьніжаюць сабекошт...

— Ну, а чаму вы прышлі сюды працаваць? Ці вы ўсе зьбіраецеся застацца рабочымі на нашай фабрыцы?

— Ведаю,—першы крыкнуў Арончык. —Політэхнізацыя.

— Правільна. Але растлумач ты мне лепш гэтае слова „політэхнізацыя“.

—Гэта,—тлумачыў Арончык,— трэба каб усякую працу разумець, каб рабочы на фабрыцы ведаў усе машыны: каб ён умеў працаваць і пры варштаце, і пілой, і гэблем, бо цяпер-жа рабочыя гаспадары на сваіх фабрыках і заводах, а кожны гаспадар павінен добра ведаць сваю гаспадарку. Я ў „Іскрах Ільліча“ апавяданьне пра політэхнізацыю чытаў і ў школе нам шмат пра гэта гаварылі.

— Дык вось,—казала далей інструктарка.—Вы павінны набыць працоўныя навыкі, вы павінны пазнаёміцца з рознымі процэсамі працы. Вы яшчэ маленькія, дык вы сёньня толькі шчоткі разьбіралі,—але і гэтая работа на фабрыцы патрэбна,

без яе не абыйдзешся. Другім разам дамо вам якую новую работу. Старэйшыя групы з вашай школы у нас ужо розную складаную работу робяць, а пачалі яны таксама з самага простага. Падрасьціце, пазнаёміцеся і вы з машынамі на фабрыках і заводах, пазнаёміцеся з працай у колгасах.

— Мы ў колгас ходзім,—закрычала ўсё зьвяло.—Мы расаду хадзілі садзіць і буракі пойдзем палоць.

— Я трактарыстам буду!—выкрыкнуў Юзік свае даўныя мары.

Ідучы назад у школу ўсе жартавалі з Зоські:

— Зося, ты якой дарогай цяпер пойдзеш,—нашай доўгай ці сваёй кароткай: туды, потым туды, потым сюды...

— Ай, ня лезьце,—зьбянтэжана казала Зося.

Другім разам Поля Матусэвіч папярэдзіла ўсё сваё зьвяно:

— Заўтра, каб а полове дзевятай усе сабраліся ў школе. І ніякіх там дарог, ніякіх пачаканак. Пойдзем усе разам. Калі ты ва ўдарнай групе, дык ня выдумвай свайго лішняга а будзь організаваным.

Прышлі на фабрыку ўсе разам без ніякіх прыгод.

Працавалі гэтым разам у сьвідравальным цэху. Сьвідравальны варштат на чатыры шпіндалі сьвідраваў дзірачкі ў драўляных пляначках. У гэтыя дзірачкі потым прадзяваліся пучкі воласу. Пасьля сьвідраваньня ў дзірачках яшчэ заставаліся маленькія трусачкі дрэва. Дзецям трэ' было прачысьціць ад пілавіньня гэтыя дзірачкі, каб пучкі воласу маглі вольна праходзіць у іх.

Работа нескладаная. Але дадзена была норма прачысьціць па 30 пляначак за 3 гадзіны працы. Кожнаму ў рукі далі шурпаватае шыльца, і ўся група старанна ўзялася за працу.

Работа не цяжкая, але кожны працуе па-рознаму. Той лаўчыцца, як найзручней трымаць пляначку; тая прачышчае дзі-



рачкі не па парадку, сьпярша адну, потым праз дзьве другую, заўважае, што прамінула, скоса паглядае на таварышоў, ці ва ўсіх ладзіцца работа, шумна ўздыхае і, націскаючы струмантам, старанна чысьціць дзірачкі, ужо ня мінаючы ніводнай.

Найлепш працуе Поля. Яна вельмі ўважлівая, і ўвесь працэс работы ідзе ў яе разьмераным рухам. Прачысьціла адну пляначку, паклала, узяла другую і з кожнай новай рукі яе ходзяць больш пэўна і ўмела.

Найбольш мітусьлівы Юзік. Ён хапаецца, каб зрабіць хутчэй больш за ўсіх, пляначка валіцца з яго рук. Круглы Арончык сапе носам ад напружанасьці, але не астаецца ад другіх, і прачышчаныя пляначкі роўным грудком растуць перад ім.

Калі прагудзеў гудок на абед, група пачала падлічаць, хто колькі зрабіў. Для першага разу працавалі вельмі добра. Поля прачысьціла аж 38 плянак, Настуля—33, Арончык—31. Амаль што ўсе зрабілі норму, толькі Юзік прачысьціў усяго 25 пляначак.

Ён адчуваў сябе зьбянтэжаным, але інструктарка, падлічваючы яго працу, супакойвала.

— Нічога, хлопчык. Я бачыла, як ты стараўся. Не хапайся толькі, дык другім разам і ты норму зробіш.

Ад вялікай стараннасьці дзеці панаціскалі сабе мазалі на пальцах.

Прышоўшы ў школу, яны паказвалі свае рукі і з гонарам тлумачылі:

— Глядзеце, першыя працоўныя мазалі на руках. Бачыце, як мы стараліся.







# Машыністы тансык

Верш З. ІАСТАПЕНКІ
Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ.

Там, дзе неба сьпякотнае, сіняе,
А пад небам—пяскоў акіян,
Ёсьць, далёка ад нас, краіна,
А завецца яна—Казакстан.
Казакстан—
Гэта там:
У Сярэдняй Азіі...
Не скажу адразу я,
Колькі там язды,
Каб трапіць туды.
Пэўна трэба доўгі час,
Ня спыняючыся, мчаць
У шумлівых цягнікох
Па ўзгор'ях,
Па пяскох,
Дзе ідуць марудна
Рыжыя вярблюды...
Ды апавяданьне—
Вам скажу адразу я—
Не аб Казакстане
І Сярэдняй Азіі,
А пра казака,
Малога хлапчука,
Імем—Тансыка...

* * *

Дзе вятровы сык,
Дзе вярблюжы крык—
Жыў хлапчук Тансык.
Сірата ён чысты...
Бацька быў калісьці,
Ды, пашоўшы хворым
Пасьвіць статкі ў горы,
Недзе там загінуў—
Няма і ўспаміну.
А малога Тансыка
Бай*) узяў за батрака.

* * *

Пралятаці тыдні, дні
Без канца і краю.

---

[1]) Бай—кулак.





Хлопец пасьвіў табуны
Багатага бая.
Быў за ежу—
Чэрствы хлеб.
А за хату—
Чысты стэп.
А замест сяброў—
Дзьвесьце бараноў,
Коні ды вярблюды—
Рыжыя няўклюды.

***

А па стэпу, праз пяскі
Прабягалі цягнікі.
Там, сьпяваючы пяском,
Пад вятровы хрып,
Нёс цягнік за цягніком
Волатны Турксіб [1]).
Марыў Тансык часта,
Як аб нейкім шчасьці,
На цягнік папасьці...

Кінуць злога бая,
Гэты стэп бяз краю,
Тлустых бараноў...
Не вярнуцца зноў...

***

Аднойчы з Кунгей-Алатау, [2])
З узгор'яў каменных і хмурых
З пяшчанаю хмарай зьлятала
Стэповая грозная бура.
Шумела ўвесь дзень
І ўвесь вечар,
Зрывала казацкія юрты.
Засыпала статкі авечак,
Шмат іх загінула з гурту.
Дрыжыць на узгорку Тансык
Пад буры раз'юшанай сык...

---

Злосны ай яй-яй...
Раззлаваны бай—
Сорак бараноў
Хмарамі пяскоў
Ў стэпу замятала,
Двух каней ня стала.
Сьвішча бай качмой, [3])
Хвошча Тансыка.
Лютаю рукой
Б'е ён батрака.
Лаяў, катаваў...
Разьлятаўся крык...
... Увечары ляжаў
Ледзь жывы Тансык.
А на заўтра зьнік
У стэпох Тансык.

***

Разгарнуўся стэп
Вольна з краю ў край.
— Дзякую за „хлеб",

---

[1]) Нядаўна пабудаваная чыгунка, якая злучае Сібір з Туркастанам.

[2]) Горны хрыбет.

[3]) Хаты.

[4]) Качма—бізун.

Тоўстапузы бай!
Жоўты стэп імгліцца
Пад вятровы сык,
На кані імчыцца
Ў вольны сьвет Тансык.
Сьціснуўся кулак,
Зьнік з вачэй адчай.
— Больш я не батрак,
Тоўстапузы бай!
І праз нейкі час
Па сухіх пяскох
Тансыка дамчаў
Да Турксібу конь.



* * *

Вам ведаць напэўна ахвота,
А што-ж было потым?

. . . . . . . . .

Калі запалалі агні
Турксібу па вольнаму краю,
Мінулі раздольныя дні
Для лютага ворага бая.
Ўзьняліся працоўныя масы
На барацьбу за колгасы
І за зьнішчэньне ўсіх баяў—
Ворагаў вольнага краю.

. . . . . .

Гады па-над стэпам ляцяць,
Напэўна прайшло гадоў пяць.
Дзе вецер сьпявае асіплы,
Імчыцца цягнік па Турксібу.
Пад ветраў напевы і сьвіст
Чарнявы глядзіць машыніст.
І цьвёрда вядзе свой цягнік
Калішні батрак—
Тансык.






*Апавяданьне І. КАГАНОЎСКАЙ*

Дзеці часта зьбіраліся каля электрастанцыі. Ім было цікава ведаць, куды гэта складваюцца і на што патрэбны гэтыя земляныя цаглінкі, якія кожны дзень прывозіць на двор электрастанцыі маленькі цягнічок.

Шмат іх, гэтых цаглінак. Навошта іх гэтак многа? Што будуюць з іх?

Рабочы адчыніў браму. Дзеці падышлі да яго.

— Дзядзька, што вы робіце з гэтых земляных цаглінак? Што вы з іх будуеце?

Засьмяяўся рабочы.

— Вось прыдумалі: земляныя цаглінкі. Гэта торп, а не цаглінкі і нічога ты з яго не пабудуеш. А што мы робім з яго—уваходзьце і паглядзеце самі.

Дзеці ўвайшлі на двор электрастанцыі. Як тут цікава! Праз вокны было відаць, як круцяцца вялікія колы і нешта моцна гудзе. А пасярод двара ляжыць цэлая гара земляных цаглінак.

Дзеці запыталіся:

— Навошта вам гэтулькі шмат? Што вы з іх робіце?

— Нам іх патрэбна шмат, шмат. Наш цягнічок не спраўляецца вазіць. Убачыце самі.

Рабочы адчыняе дзьверы качагаркі. Як там горача. Стаяць рабочыя і кідаюць у печ гэтыя цаглінкі. А цаглінкі гараць.

— Торп ідзе на апал электрастанцый, фабрык, заводаў. Гэта ён круціць колы машын, дае сьвятло і цяплыню. У нас шмат тарпяных залежаў. Шмат торпу ляжыць нескарыстаным,—казаў дзецям рабочы.

— А дзе гэты торп робіцца,—запытваюцца дзеці ў рабочага,—таксама на фабрыцы?

— Не, торп ляжыць у зямлі.

— У зямлі?—зьдзівіліся дзеці.

— Ага, у зямлі. Вось прыходзьце заўтра. Мы паедзем туды, дзе здабываюць торп.

Дзеці здаволеныя пашлі дамоў.

*
* *

— Та-та-та, та-та-та,—стукаюць колы цягнічка.



**Кучказьбірацель** *—машына, якая здабывае торп. Працуе яна пры дапамозе трактара.*



*Торп з тарпянога заводу „Шлях социялізму“ падаецца на Добрускую электрастанцыю пры дапамозе канатнай дарогі. Гэта дарога цягнецца каля 15 кілёмэтраў.*

Гу-гу-гу,—гудзе маленькі паравоз. Стаяць людзі на дарозе і думаюць:

— Куды гэта едзе цягнічок?

А колы цягнічка выстукваюць: торп узяць, торп узяць.

На цягнічку ехалі дзеці глядзець, як здабываецца торп.

Урэшце прыехалі. Балота ўсё перарэзана на кавалкі. Гудзе нейкая машына.

— Дзядзька, а дзе-ж здабываюць торп,—запыталіся дзеці ў рабочага.

— Вось тут і здабываюць торп. Усё навакол— гэта і ёсьць тарпяное балота. Торп—гэта перагніўшыя расьліны, карэньні расьлін. Усё гэта зьлежвалася на працягу многіх гадоў і ўтварыўся тарпяны пласт. Рабочыя капаюць яго, кладуць на машыну. Машына прасуе, рэжа яго на цаглінкі. Пасьля



*На тарпяным заводзе „Шлях соцыялізму". Брыгада работніцы Сівухінай ідзе на работу.*

раскладаюць цаглінкі на сонца сушыць. Сухі торп кладуць на цягнічок і адвозяць на электрастанцыю.

У Беларусі вельмі шмат торпу. Ён да гэтага часу ляжаў сабе спакойна. Але цяпер узяліся за яго. Для новых фабрык і заводаў нам патрэбна многа апалу. Торп-жа зьяўляецца самым танным і каштоўным апалам. Будуюць тарпяныя заводы, якія здабываюць торп. Беларусь—гэта тарпяны Донбас. Торп паступова будзе замяняць дровы, якія каштуюць даражэй.

Весела было дзецям ехаць назад. Вагоны цягнічка былі напоўнены торпам.

Гудзеў паравоз, а колы цягнічка выстуквалі: торп вязем, торп вязем.




ВЫВУЧАЙ ПАСТАНОВЫ ЗЬЛЁТУ

У канцы ліпеня скончыў сваю работу 2-гі Ўсебеларускі зьлёт піонэраў. Цэлы тыдзень працаваў зьлёт. Больш за 900 дэлегатаў з усіх куткоў Беларусі зьехалася ў Менск на зьлёт, каб падагуліць сваю работу ды абмяняцца вопытам працы.

Піонэры актыўна дапамагаюць ў працы нашай партыі, комсамольцам, усім рабочым і колгасьнікам.

Разам з рабочымі яны змагаюцца за тое, каб з посьпехам выканаць промфінплян на заводзе. Калі хто з рабочых ня прыдзе на работу альбо будзе кепска працаваць, дык яго піянэры запішуць на чорную дошку. Піонэры дапамагаюць уцягваць рабочых ва ўдарныя брыгады. Зьбіраюць сярод рабочых каштоўныя прапановы для таго, каб палепшыць работу на вытворчасьці.

Ня меншую работу праводзяць і піонэры колгасаў, саўгасаў і вёсак. Яны разам са старэйшымі змагаюцца за выкананьне плянаў сяўбы, дапамагаць чысьціць насеньне, зьбіраць ураджай. Уцягваюць сваіх бацькоў ва ўдарныя брыгады. Піонэры змагаюцца за суцэльную колектывізацыю. Яны ўцягваюць сваіх бацькоў у колгасы.

Тысячы тон сабранага піонэрамі уцілю, тысячы няпісьменных навучаных піонэрамі грамаце—усё гэта даводзіць аб тым што піонэры—актыўныя змагары за новае лепшае жыцьцё, за пяцігодку.

Нашай партыяй і ўрадам піонэры ўлічваюцца як моцная сіла. Піонэрам урад нават даў сваё дзяржаўнае заданьне, у якім намеціў асноўныя для іх работы. Каб пасьпяхова выканаць гэта заданьне, піонэры заключылі

дагаворы з гаспадарчымі організацыямі: Народным Камісарыятам Земляробства, Вышэйшым Саветам Народнае Гаспадаркі, Колгасцэнтрам, Народным Камісарыятам Асьветы.

Барацьба за політэхнізацыю школы, за ўсеагульнае навучаньне стала штодзеннай работай піонэраў. Ды ці мала яшчэ можна налічыць тых франтоў, на якіх змагаюцца піонэры.

## І. БУДЗЕМ ЯШЧЭ ЎПАРЦЕЙ ЗМАГАЦЦА ЗА ПРОМФІНПЛЯН

На зьлёце дэлегаты падзяліліся на асобныя сэкцыі. Усяго было 8 сэкцый. Была тут і сэкцыя па ўдзелу піонэраў у выкананьні промфінпляну. Дэлегаты ад вытворчых атрадаў, якія працавалі ў гэтай сэкцыі, абмяняліся вопытам працы асобных організацый.

У далейшым піонэрам трэба ўзмацніць работу на вытворчасьці, палепшыць якасьць работы. Прыцягнуць да гэтае работы неорганізаваных дзяцей.

Змагацца за аўладаньне тэхнікай, за рацыяналізацыю, за гаспадарчы разрахунак — вось чарговыя задачы, на выкананьне якіх павінны быць накіраваны і піонэрскія батальёны,

## ІІ. ЗА СУЦЭЛЬНУЮ КОЛЕКТЫВІЗАЦЫЮ!

Сэкцыя па барацьбе за суцэльную колектывізацыю была самаю большаю на зьлёце. І ня дзіўна. Барацьба за ператварэньне старой жабрацкай вёскі у буйныя соцыялістычныя гаспадаркі—колгасы стала блізкай піонэрам, стала іх штодзеннай работай.

Але яшчэ вялікія задачы стаяць перад піонэрамі ў гэтай галіне работы. У БССР колектывізавана ня больш палавіны гаспадарак. А да канца пяцігодкі мы павінны колектывізацыю ў асноўным закончыць.

Асноўныя задачы піонэраў у гэтай рабоце наступныя: змагацца за гаспадарчае замацаваньне організаваных колгасаў, за перавод усяе работы ў колгасах на зьдзельшчыну, уцягваць сваіх бацькоў і ўсіх беднякоў і сераднякоў у колгасы.


*На зьлёт!*

## III. ЗРОБІМ ШКОЛУ ПОЛІТЭХНІЧНАЮ

Сэкцыя за політэхнічную школу абгаварвала, як хутчэйператварыць нашу школу ў політэхнічную, каб зрабіць яе цэхам заводу, колгасу, саўгасу. Усё навучаньне ў політэхнічнай школе трэба зьвязаць з вытворчаю працаю прадпрыемства, з грамадзка-політычным жыцьцём гэтага прадпрыемства.

Бліжэйшыя задачы піонэраў у барацьбе за політэхнічную школу наступныя: дабівацца пры мацаваньня ўсіх школ да вытворчасьці. Патрабаваць ад адміністрацыі прадпрыемства, каб школа была ўключана ў промфінплян. Заключыць новыя дагаворы між школай і прадпрыемствам і правяраць, як яны выконваюцца. Прыцягваць рабочых, колгасьнікаў да абгаварэньня програм школы. Прыцягваць неорганізаваных дзяцей да ўсёй гэтай работы.

## IV. РЫХТАВАЦЬ СЯБЕ ДА АБАРОНЫ

На зьлёце працавала вайскова-фізкультурная сэкцыя. Акрамя гэтага быў праведзен спэцыяльны вайсковы дзень. Гэты дзень дэлегаты правялі ў чырвонаармейскіх лягерах, разам з чырвонаармейцамі.

Дэлегаты зьлёту адзначалі, што ў атрадах і школах мала зьвяртаюць увагі вайсковай рабоце. А для таго, каб у любы момант выступіць на абарону нашае краіны, каб даць належны адпор буржуям, якія памкнуцца захапіць наш Саюз, трэба ведаць вайсковую справу, трэба быць падрыхтаванымі.

У далейшым трэба больш зьвярнуць увагі на вайсковую работу. Вайсковая работа павінна стаць аднэй з важнейшых работ атрадаў і школ. Трэба кожную работу атраду зьвязваць з вайсковай падрыхтоўкай.

## V. „ДРУК—САМАЯ МОЦНАЯ ЗБРОЯ НАШАЙ ПАРТЫІ“

Гэтак сказаў тав. Сталін. Гэта адносіцца і да нашага дзіцячага комуністычнага друку.

На зьлёце працавала сэкцыя друку. Дэлегаты гэтай сэкцыі—дзяткоры абгаварвалі шляхі сваёй далейшай працы.

Перад дзяткорамі стаяць вялізарнейшыя задачы. Ім трэба організоўваць масы дзяцей на ўдзел у социялістычным будаўніцтве. Праз друк дзяткоры змагаюцца з недахопамі ў працы.

Дэлегаты сэкцыі друку адзначалі, што ў атрадах і школах яшчэ дрэнна пастаўлена праца з выданьнем насьценных газэт. Ня ўсе яшчэ піонэры і вучні выпісваюць нашы дзіцячыя газэты і часопісі.

На зьлёце выдавалася газэта „Зьлётавец“. Газэта ўзьняла пытаньне аб тым, каб пачаць выданьне ў Беларусі акцябрацкай газэты. Усе піонэры павінны падтрымаць гэту прапанову.

## VI. БОЛЬШ УВАГІ АКЦЯБРАТАМ

Піонэры не забыліся і пра акцябрат. На зьлёце працавала сэкцыя па рабоце з акцябратамі. На гэтай сэкцыі піонэры вырашалі пытаньне, як лепш падрыхтоўваць сабе зьмену— акцябрат, як лепш з імі працаваць.

Дэлегаты гэтай сэкцыі гаварылі, што піонэры зусім мала зьвяртаюць увагі акцябратам, зусім слаба імі кіруюць. Таму групы акцябрат распадаюцца і не працуюць.

Акцябраты павінны патрабаваць ад піонэраў, каб яны выконвалі пастанову 2-га зьлёту— больш зьвярталі ўвагі на акцябрат. Піонэры павінны ўцягваць акцябрат у работу сваіх атрадаў.

Многія групы акцябрат не працуюць таму, што ў іх няма кіраўнікоў. Піонэрскія атрады не паклапаціліся вылучыць сваіх лепшых піонэраў-комсамольцаў для работы з акцябратамі.

Акцябраты патрабуюць увагі. Яны хочуць актыўна разам з піонэрамі працаваць на пасільных для іх вучастках социялістычнага будаўніцтва. Абавязак піонэраў і комсамольцаў уцягнуць акцябрат у гэтую работу.

Да першага зьлёту ў Беларусі было толькі 75 тыс. піонэраў. А да 2 га зьлёту мы ўжо маем 200 тысяч. Хоць гэта і вялікі рост, але ён нас не задавальняе. Трэба тэмпы росту піонэрскай організацыі павялічыць.

Зьлёт пастанавіў, каб за самы кароткі час уцягнуць у піонэрскія рады ўсіх дзяцей рабочых, дзяцей колгасьнікаў, беднякоў і батракоў.



*Атрымліваюць мандаты.*




*Апавяданьне Р. ШАТЭРНІКА.*
*Малюнкі ГУТКОЎСКАГА.*

## I

Ціха на полі. Ня чуваць вясёлых сьпеваў жней. Ня чуваць больш вясёлага стракатаньня жняярак. Жніво скончылася. Замест буйных каласоў застаўся на полі калючы жнеўнік. Часьцей пачалі ісьці дажджы. Пачыналася восень.

Гул малатарняў чуваць быў кожную раніцу. Гэта колгасьнікі малацілі новае збожжа.

У колгасе „Бальшавік“ таксама рыхтаваліся да малацьбы. Іх выклікаў суседні колгас „Перамога“ на спаборніцтва: хто хутчэй змалоціць. Абодвы колгасы рыхтавалі Чырвоны абоз хлеба дзяржаве. Да адпраўкі абозу засталося толькі пяць дзён.

Піонэрскі атрад збор склікаў, каб пагаварыць, які ўдзел павінны прыняць піонэры ў малацьбе.

На зборы аднагалосна вырашылі вылучыць піонэрскую брыгаду. Гэтай брыгадзе даручылі разам з колгасьнікам, брыгадзірам па малацьбе, праверыць, ці спраўна малатарня, дапамагчы змазаць яе і прывесьці ў парадак.

На заўтра раніцою Гэлька, Алесь, Янка і Рыгор з брыгадзірам дзядзькам Андрэям пашлі аглядаць малатарню. Перагледзілі кожную шрубку. Змазалі маслам. Малатарня спраўна.

Пад вечар піонэры з дзядзькам Андрэям запрэглі ў малатарню на поўгадзіны коні, падвезьлі воз жыта, каб зрабіць спробу і на заўтра з раніцы пачаць малацьбу.

Весела загула малатарня. Гул разносіўся па ваколіцы. Рыгор з Алесем паганялі коні. Дзядзька Андрэй падаваў у цапы. Снапы

падавала яму Гэлька, а Янка адграбаў салому. Малатарня была спраўна. Заўтра можна пачаць малацьбу. Чырвоны абоз будзе арганізаваны у тэрмін.

## II.

Сон не бярэ нешта сёньня кулака Мацьвея. З яго галавы ня вылазіла думка аб тым, што колгас у тэрмін здасьць хлеб дзяржаве. Выгляд у яго быў страшны. Налітыя кроўю вочы блішчэлі як у раззлаванага сабакі.

Паляжаў ён з гадзіну. Устаў. Вышаў на двор. Было ўжо пасьля поўначы. Цемра ночы глынула яго. Неўзабаве недзе ціханька скрыпнулі вароты. Пачуўся ціхі, ціхі шопат. А праз гадзіну кулак Мацьвей вярнуўся. Борзьдзенька скінуў боты і лёг спаць.

## III.

Яшчэ з раніцы забегалі ў колгасе. Як пчолы ў вульлі. Гамонка, сьмех чуваць былі.

— Якуб, уставай, малаціць пара,—гукаў у вакно дзядзька Андрэй колгасьніку Якубу.

Прахапіліся і дзеці. Тыя дні бывала з пасьцелі ня ўспораш. А сёньня раненька ўсе былі на нагах. Нават маленькая васьмігадовая Зоська, дачка Андрэя, прачнулася. Яна таксама зьбіралася малаціць.

— Алесь, мы будзем і сёньня паганяць коні,— зьвярнуўся Рыгор да Алеся, праціраючы заспаныя вочы.

Алесь з Рыгорам пабеглі ў хлеў, дзе стаялі коні. Спраўна надзелі коням аброці. Вывелі на двор. Падышоў колгасьнік Антось. Надзелі хамуты, зачапілі пастронкі. Колгасьнікі гуртам накіраваліся ў гумно да малатарні.

Запрэглі коні. Разьмеркавалі працу. Піонэры ўзяліся адграбаць салому.

Дзядзька Андрэй падліў у манежы алівы.

— Ну, хлопцы, паганяй!—Прыкнуў ён Алесю і Рыгору.

Коні крануліся. Раптам затрашчалі цапы ў малатарні. Аскабалак ад цапоў адскочыў у бок і папаў дзядзьку Андрэю ў шчаку. Усе забегалі. Што такое рабілася—ніхто ня ведаў.

Сунялі коняй. Пачалі разглядаць. Цапы былі ўшчэнт паламаны. У цапох знайшлі пагнуты жалезны прэнт. Адкуль ён узяўся—ніхто ня ведаў.

— Я ўчора з піонэрамі ўсё да шрубкі прагледзеў. Нават малаціць пробвалі. Усё было спраўна. А вось на табе,—кажа дзядзька Андрэй закрываючы рукою параненую шчаку.

Падышла Зоська. Паглядзела на прэнт.

— Ды я-ж ведаю чый гэта прэнт. Мы учора былі на дварэ ў Мацьвея. Іх Жэня цягала гэты прэнт. Вось нават дзірачка ў канцы, куды яна чапляла вяровачку,—сказала Зоська.

Колгасьнікі абступілі Зоську. Усім стала зразумела.

— Вось ён, кулачына. Душагуб. Яму ня міла, што мы чырвоны абоз рыхтуем. Ён хацеў сарваць чырвоны абоз. Зараз-жа ехаць у міліцыю,—моцна прагаварыў колгасьнік Антось.

## IV.

Малатарню наладзілі. Колгасьнікі ў адказ кулаку яшчэ шпарчэй узяліся за работу. За два дні змалацілі 20 вазоў жыта.

А праз дзень колгасьнікі нарыхтавалі Чырвоны абоз. Напакавалі 15 хурманак мяшкамі з сьвежым жытам. Піонэры ўпрыгожылі вазы сьцяжкамі, лёзунгамі. Да дугі пярэдняга возу прычапілі вялікі сьцяг з надпісам: „Чырвоны абоз хлеба—пролетарскаму гораду“.

На воз узьлез дзядзька Андрэй. Ён пачаў прамову:

— Ну, таварышы, не ўдалося кулаку сарваць наш Чырвоны абоз. Перамога за намі. Абоз адпраўляем у тэрмін. Але трэба памятаць, што гэта не апошняя спроба клясавага ворага. Трэба зорка за ім сачыць.

Трэба падзякаваць Зосьцы і піонэрам, што яны дапамаглі нам у падрыхтоўцы Чырвонага абозу. Мы адпраўляем хлеб у Менск, рабочым. Сёньня ім скажам, што разам з імі, пад кіраўніцтвам нашай партыі, мы пераможам кулакоў, мы пабудуем лепшае жыцьцё —соцыялізм.

Абоз крануўся. На пярэдняй хурманцы сядзеў дзядзька Андрэй, Рыгорка і Зоська. Алеська кіраваў канём.

Кулака Мацьвея забралі ў міліцыю.



# ДАМАВІК

*Апавяданьне Г. ЛЕЎЧАНКА*

*Малюнкі Л. ШАВЫКІНА*

Кожны дзень раненька бацька хадзіў даглядаць скаціну. Вельмі часта хадзіў і я дапамагаць, але сёньня я праспаў, і бацька пашоў адзін. Яшчэ я не абуўся, ак бацька ўвайшоў у хату і сеў на лаву. Я паглядзеў на яго і заўважыў, што ён нечым вельмі заклапочаны. Я падумаў, можа што здарылася з канём ці з карэваю і таксама занепакоіўся. Бацька сядзеў моўчкі і глядзеў на бэльку пад стольлю. Маці ўходжвалася каля печкі і таксама неспакойна раз-па-разу паглядала на бацьку, але пытацца ў яго чамусьці не асьмельвалася. Я ня мог больш стрымацца і запытаўся:

— Тата, што здарылася?

— І дапраўды, Максім, чаго ты такі сумны ўвайшоў у хату? Можа якая бяда здарылася з скацінаю? — перапыняла мяне маці.

— Чаму-ж тут радавацца,— сказаў бацька, калі сёньня ўначы на нашым кані езьдзіў дамавік... Стаіць увесь мокры і дрыжыць, мабыць, з перапалоху. А ўжо калі дамавік выбраў каня—кепская справа: што ночы будзе марнаваць, пакуль не дакончыць. Мусіць прыдзецца нам з сваім канём разьвітацца...



*... Конь фыркаў, біў нагамі.*

Маці задрыжала.

— Няўжо-ж нельга выгнаць дамавіка?—запытаўся я.

— Як-жа яго выганіш? Хіба пайду зараз за парадаю да бабкі Луцэі. Яна знахарка і, мусіць, ведае якое слова супроць дамавіка.

Бацька пашоў да знахаркі, я ў хлеў. Конь стаяў потны і дрыжаў.

Увечары бацька ўзяў сьвянцонага маку і сеў каля хлява пад страхою. Мне забаранілі выходзіць з хаты, але я ня вы-

трымаў і схаваўся пад паветкаю. Адтуль відаць быў хлеў і бацька. Мне хацелася бачыць, як бацька будзе выганяць дамавіка і які ён, той дамавік.

Было ціха і спакойна. Раптам конь зафыркаў, захроп і пачаў біць нагамі. З мае засады добра відаць быў бацька.

Ён асьцярожна вылез з-пад страхі, узяў кош з макам і пачаў падкрадвацца да каня. Скора ўвайшоў бацька ў загарадку, дзе стаяў конь. Я таксама ціш-ком падышоў да хлява, але, на жаль, нічога ня бачыў, а толькі чуў, як бацька выгаварваў нейкія незразумелыя словы і абсыпаў каня макам. Я пашоў у хату.

Неўзабаве ўвайшоў і бацька. Я запытаўся:

— Ну, што, бачылі дамавіка?

— Не,—адказаў бацька, чухаючы патыліцу.

— А які ён, той дамавік?— запытаўся я ў бацькі.

— Кажуць, нібы ён ня ўсюды аднолькавы бывае. Вось, напрыклад, у нас, як казала бабка Луцэя, ён калматы, з вялікаю барадою і кучаравымі валасамі на галаве. На руках і на нагах мае вострыя кіпцюры. Калі дамавік садзіцца верхам на каня, ён упіваецца кіпцюрамі ў скуру і той з больлю пачынае кідацца ва ўсе бакі.

Я доўга ня мог заснуць. Усё стаяў у ваччу дамавік.

Раніцой я расказаў таварышом пра дамавіка. Маё апавяданьне вельмі напалохала іх. Усе маўчалі. Толькі піонэр Воліська сказаў:

— Баязьліўцы вы, а не піонэры, а што калі дамавік зусім не такі, як кажа яго бацька? Тады мы ўсім раскажам, што бабка Луцэя дурасьветка, а ў яго бацькі ня ўсе дома.

Астатнія словы Воліся зрабілі ўплыў на некаторых хлапцоў. Хоць і было страшна, але мяне ўзяла цікавасьць, хацелася ўбачыць дамавіка. Некаторыя не паверылі Волісю. Яны баяліся дамавіка.

— Ну, добра,—сказаў Воліська,—хто баіцца, той няхай на печы сядзіць, а хто хоча бачыць дамавіка, няхай ідзе за мною.

Воліська сказаў загадзя залезьці ў хлеў усім і схавацца ў розных мясцох блізка адзін каля другога.

Увечары мы так і зрабілі. Настала ціхата. З кожнай хвілінай усё больш цямнела. Раптам конь пачаў фыркаць. Я ўглядаўся ў цемру, але нічога ня бачыў. Конь штораз усё больш фыркаў і біў нагамі. Я дрыжаў з перапалоху, як у трасцы.

Раптам адчыніліся дзьверы і сьвятло месяца ахапіла каня. Воліська выходзіў з хлява.

— Ну, хлопцы, спаць. Заўтра ўсё раскажу.

Не пасьпелі мы выйсьці з хлява, як каля дзьвярэй зьявіўся бацька і пачаў лаяцца. Але Воліська заступіўся:

— Дарэмна, дзядзька, гневаецеся. Мы толькі што бачылі вашага дамавіка.

— Маўчы, ты, падшывалец! Пачапіў на шыю чырвоную хустку і думаеш, што ведаеш усё лепш за старых людзей. Пажыві гэтулькі, як я, тады ня так засьпяваеш,— крычаў бацька на Воліся.

— Добра пажыву, а дамавіка я ўсё-ж такі бачыў. Гэта маленькі зьвярок, а не калматы з барадою... Калі я падбег да каня, дык ясна бачыў, што ён саскочыў з каня і схаваўся ў кутку.

— Годзетабе жартаваць,— сказаў бацька злосна.

— Хочаце, дзядзька, давяду. Давайце паставім пастку і тады ўбачым, хто з нас кажа праўду.

Бацька доўга спрачаўся, але потым згадзіўся.

— Добра, стаў пастку. А як ня зловіш дамавіка, я табе пакажу.

Воліська скора знайшоў пастку. Мы злавілі вераб'я і прывязалі яго ў пастцы.

Каля хлява стрэлі бацьку, ён засьмяяўся і крыкнуў:

— Дамавіку ня трэба вашага вераб'я. Яму давай каня... Пачакайце, ён вам пакажа дзе ракі зімуюць.

Бацька пашоў у хату. Воліська паставіў пастку, зачыніў дзьверы і сказаў не чапаць пасткі да раніцы. Мы разышліся.

На другі дзень прышоў Воліська і вынес з хлява пастку.

У ёй быў нейкі маленькі доўгі зьвярок.

— Вось глядзеце, які дамавік,— сказаў Воліська.



*... Воліська скора знайшоў пастку.*

— Але. Гэта-ж ласіца...— зьдзівіўся бацька, ухапіўшыся за бараду, — у нас іх цэлае гняздо вывелася ў сьвіронку.

Маці таксама вышла з хаты паглядзець на дамавіка.

— Дык яна-ж мышэй ловіць. Пусьцеце яе,— сказала маці,—

у яе дзеці ёсьць у сьвіронку.

— Гэта-то праўда, яна ловіць мышэй. Але яна, бачыце, марнавала вашага каня. Я чытаў у кніжцы, што ласіца скача на каня і шчыкоча яго. Конь б'ецца і храпе, кідаецца ў розныя бакі і пакрываецца ўвесь пенаю, а гэты зьвярок са смакам ліжа пену. Калі вы пачалі гаварыць пра дамавіка, я і ўспомніў ласіцу.

**У гэтым годзе мы павінны давесьці лік буйнай рагатай жывёлы да 1200000 галоў. Такое заданьне партыі і ўраду. Будзем упарта змагацца, каб выканаць гэтае заданьне.**



*Каровы ў колгасе „Перамога“*

## Зьбяру 100 падпісчыкаў

Я аб'яўляю сябе ўдарнікам па пашырэньні часопісі „Іскры Ільліча“ сярод дзяцей.

Да першага студзеня я абавязваюся сабраць па Горацкаму раёну ня менш 100 падпісшчыкаў. Выклікаю на соцпаборніцтва дзяткораў: ПЫХА, ЦЫРЛІНУ і КАРАНДЗЕЙ.

Дзяткор Б. ЮФЭ.

# КУТОК АДПАЧЫНКУ

## *ЖАРТЫ*

### УПЭУНІУ

Настаўнік (гаворыць па тэлефону):—Дык кажаце, што ваш Янучок хворы, у школу ня прыдзе? Гм... а хто гэта гаворыць?

Голас (стараецца гаварыць груба):—Гэта мой тата.

### НЯМА НІЧОГА ДЗІУНАГА

— Паглядзі, Кастусь, як ты запэцкаў рубашку ў пабелку. Увесь рукаў белы.

Кастусь:—Ну дык што тут дзіўнага? Я бачыў зусім белыя рубашкі, а то ўсяго адзін рукаў...

### ПРАВІЛЬНЫ АДКАЗ

Маці:—вынесі, дачушка, хустку на двор, ды павесь на сонцы, каб прасохла.

Дзяўчынка:—Я не палезу на сонца вешаць хустку. Павешу лепш на плоце.

### АДКАЗАУ

Настаўнік (да вучня):—Чаму гэта, Янка, наша зямля не стаіць на месцы, а круціцца?

Янка:—Бо ёй горача ад сонца. Вось і чалавек, калі ляжыць на печы і добра прыпячэ яму бок, ён таксама круціцца.

## МАЛЯВАНЬНЕ ПРАЗ ШКЛО

Пры дапамозе шкла можна вельмі лёгка і хутка змаляваць любы малюнак. Для гэтага вазьмі кавалак звычайнага ваконнага шкла 20 см. шырыні і 30 см. даўжыні. Пакладзі малюнак перад сабою на стол, а з боку побач з ім белы ліст паперы. Шкло ставіцца старчма між малюнкам і паперай, як перагародка (гл. малюнак). Трымай галаву над малюнкам і глядзі на белы ліст цераз шкло. Там убачыш вобраз малюнка, і табе застанецца толькі абвесьці яго алоўкам.



Выдавецтва ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: У. РАЦЭВІЧ, А. ЯКІМОВІЧ

ЦАНА 18 КАП.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ
## НА АДЗІНУЮ Ў БССР ДЗІЦЯЧУЮ ЧАСОПІСЬ

# ІСКРЫ



**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 месяцы | 45 к. |
| На 6 месяцаў | 90 к. |




„ІСКРЫ ІЛЬІЧА“ САМАЯ ПАТРЭБНАЯ, КАРЫСНАЯ І ЦІКАВАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ ПАЧАТКОВЫХ ШКОЛ, ДЛЯ МАЛОДШЫХ ПІОНЭРАЎ, ДЛЯ АКЦЯБРАТ, ДЗІЦЯЧЫХ ДАМОЎ І САДОЎ

**ДЗЕЦІ**

ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ СВАЮ ЧАСОПІСЬ

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА** — зьмяшчаюць на сваіх старонках вершы нарысы, галаваломкі, жарты, прыгожыя малюнкі ў фарбах

**НАСТАЎНІКІ**

ОРГАНІЗУЙЦЕ КОЛЕКТЫЎНУЮ ПАДПІСКУ СЯРОД ВУЧНЯЎ НА ЧАСОПІСЬ

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА** — даюць многа каштоўнага матар'ялу кожнаму настаўніку пачатковай школы, кіраўніку дашкольных устаноў, павадыру групы акцябрат і павадыру атраду

**БАЦЬКІ**

ВАШЫ ДЗЕЦІ ХОЧУЦЬ ЧЫТАЦЬ СВАЮ ЧАСОПІСЬ

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА** — апрача арыгінальных твораў беларускіх пісьменьнікаў, зьмяшчаюць творы для дзяцей з расійскай, украінскай, нямецкай і іншых моваў

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ ТОЛЬКІ НА ПОШТУ ЦІ ЛІСТАНОСЦАМ

# ІЛЬІЧА

Орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы

Друк. імя Сталіна. Заказ № 1.775 Тыраж 6.250 Галоўлітбел № 2.040